## У Пінску развіталіся з Яўгенам Шатохіным


Мастак Яўген Шатохін

У ноч з 21 на 22 студзеня на 65-м годзе жыцця у Пінску памёр беларускі мастак Яўген Шатохін. Творца вядомы сваімі выставамі ў Францыі, Польшчы, Расіі і Злучаных Штатах Амерыкі. Галоўнай задачаю мастак лічыў адлюстраванне прыгажосці роднай зямлі, гісторыі свайго краю.

Першыя свае выставы мастак арганізаваў у 1972 годзе. За гэты час Яўген Шатохін стварыў некалькі цыклаў і серый, прысвечаных выбітным асобам, краявідам земляў, дзе бываў і жыў. У 2010 годзе да 600-годдзя Грунвальдскай бітвы стварыў партрэт вялікага князя Вітаўта.

За сваю плённую працу ў 2004 годзе атрымаў медаль Беларускага Саюза Мастакоў “За заслугі ў выяўленчым мастацтве”. Годам раней беларускі мастак атрымаў званне ганаровага грамадзяніна французскага горада Альберт.

Ад самага пачатку ўваходзіў у Беларускі Народны Фронт “Адраджэнне”. З 1990 па 1999 год быў дэпутатам Пінскага гарсавета. Сябра Сойма Кансерватыўна-Хрысціянскай Партыі – Беларускі Народны Фронт “Адраджэнне”.

25 лютага мастаку споўнілася б 65 год. На гэты дзень яго сябры і паплечнікі рыхтавалі творчыя вечары.

Зміцер Кісель, Радыё Рацыя.

new.racyja.com/news/u-pinsku-razvitalisya-z-yaugenam-shatokhinym

**Кантакты:**

**e-mail:** viasna_bierascie@hotmail.com

**Наклад: 299 асобнікаў**

Праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь Берасьцейшчыны «Мяжа»







Праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь Берасьцейшчыны

№ 1 (студзень), 2012

# Мяжа




**У сталоўцы Брэсцкага гарвыканкаму прадаюць таннае мяса “для сваіх”**

(старонка 9)

## ЗЬМЕСТ







прымаюцца на іншых частках могілак, дзе дрэваў і кустоў не меней. Краязнаўца Эдвард Злобін кажа, што гэтыя пахаванні сапраўдны "Пінскі некропаль", бо тут свой спачын знайшлі Орды, Агінскія і Скірмунты, але, на жаль, даглядаюць могілкі толькі некалькі энтузіястаў:

- Па-першае, размеркавалі па сектарах паміж прадпрыемствамі, школамі, касцёлам, Саюзам палякаў. Але яны не заўсёды выконвалі свае абавязкі. Многія лянаваліся. Саюз палякаў выходзіў два разы на тыдзень працаваць.

Пасля 2007 года на могілках з'явіліся шыльды, якія заклікаюць шанаваць памяць сваіх продкаў і працоўны час. Краязнаўца лічыць, што лепшым паказчыкам з'яўляюцца адносіны ўлады, а адсюль вынікае і вандалізм.

Зміцер Кісель, Радыё Рацыя.

http://new.racyja.com/news/u-pinsku-apaganeny-garadskiya-mogilki-fota

## У фальварку каля Пружан знайшлі цікавыя знаходкі

Дахавая бляха – аналаг той, якой накрытыя Сабор Парыжскай Багамаці і Брытанскі Парламент – знойдзена каля Пружан. Знаходка належыць літаратару і краязнаўцу Міколу Папеку.

Яна была знойдзена разам з жалезнымі артэфактамі ў разбураным шляхецкім фальварку.

Мікола Папека адзначыў, што артэфакт быў выяўлены ў абставінах непавагі да культуры і гісторы Беларусі з боку мясцовых уладаў:

- На жаль, нягледзячы на тое, што будынак знаходзіўся ў даволі добрым стане, новы дырэктар вырашыў яго знесці. Вядома, што гэты будынак ніхто не вымяраў, не фатаграфаваў, дзеля таго каб праз нейкі час яго можна было аднавіць. Калі яго разбурылі, там валяліся бярвенні і жасцяныя бляхі. На адной з бляхаў былі выяўлены такія вось знакі "Лысьвенскага металургічнага заводу", з пячаткамі графа Шувалава і залатога медаля.

На дадзены момант дахавая бляха знаходзіцца ў краязнаўцы Міколы Папека. Намеру перадаваць яе ў музей у бліжэйшы час, ён не мае.

Аліса Поль, Радыё Рацыя.

new.racyja.com/news/u-falvarku-kalya-pruzhan-znaishli-tsikavyya-znakhodki

## Польскі Сэйм вылучыць Бяляцкага на Нобэля

На пятніцу заплянаваная прэзэнтацыя афіцыйнай заявы дэпутатаў польскага Сэйму ў справе вылучэньня на Нобэлеўскую прэмію міру беларускага праваабаронцы Алеся Бяляцкага.

Подпісы пад заявай паставілі ня толькі дэпутаты польскага парлямэнту, але і яшчэ 27 краінаў-сябраў Рады Эўропы.

«Гэтая ідэя спадабалася калегам-дэпутатам і яны ў часе апошняй Сэсіі ПАРЭ ў Страсбуры ахвотна пад ёй падпісваліся», – заявіў напярэдадні дэпутат Анджэй Галіцкі, кіраўнік польскай дэлегацыі ў ПАРЭ.

Паводле ягоных словаў, Польша «мае вялікі доўг»

у справе Бяляцкага і таму павінна заплаціць яго прынамсі такім чынам.

«Калісьці эўрапейскія народы не пакінулі нас у абдымках рэжыму і тады жонка зьняволенага Леха Валэнсы атрымала Нобэлеўскую прэмію міру. Гэта было прыгожа і сымбалічна, мабілізавала нас на змаганьне», – падкрэсьліў польскі парлямэнтар.

Анджэй Галіцкі паведаміў таксама, што размаўляў аб падтрымцы кандыдатуры Бяляцкага зь Лехам Валэнсам, на «падтрымку якога можна разьлічваць».

www.svaboda.org/content/article/24463844.html

## У Пінску апаганены гарадскія могілкі




У Пінску камунальныя службы апаганілі пахаванні на гарадскіх могілках XIX стагоддзя. Аналагічная сітуацыя, але ў большым маштабе, адбылася ў 2007 годзе, калі праводзілася высечка дрэваў для санітарнай прафілактыкі.

Тады было апаганена 43 магілы і склепа, цяпер каля 20-ці. Камунальнікі абсякалі галлё, якое скідвалі на помнікі. Прадстаўнікі польскай меншасці не разумеюць, чаму такія “санітарныя меры” не





## Шэсць фактаў па справе Алеся Бяляцкага, пра якія не распавядае БТ і не пішуць у “Советской Белоруссии”

Афіцыйныя сродкі масавай інфармацыі, якія распачалі шалёную кампанію дыфамацыі супраць вядомага беларускага праваабаронцы Алеся Бяляцкага, вельмі любяць распавядаць пра ягоную маёмасць. У сувязі з гэтым мы, калегі Алеся Бяляцкага, вырашылі агучыць рэальныя факты, якія замоўчваюцца ці скажаюцца штатнымі прапагандыстамі ў мэтах дыскрэдытацыі зняволенага праваабаронцы.

Адразу адзначым, што ўсе выкладзеныя факты падцвярджаюцца афіцыйнымі дакументамі, якія знаходзяцца ў матэрыялах крымінальнай справы А. Бяляцкага і былі агучаны падчас судовага паседжання.

Факт першы: Двухпакаёвая кватэра, у якой пражывае сям’я Алеся Бяляцкага, была набытая ў 1999 годзе ў выніку продажу двух аднапакаёвых кватэр, якія належалі сям’і Бяляцкіх (знаходзіліся на вул. Варанянскага ў г. Мінску). Варта адзначыць, што працуючы дырэктарам Літаратурнага музея Максіма Багдановіча (з 1988 па 1998 год), Алесь Бяляцкі атрымаў адну з гэтых аднапакаёвых кватэр па ордэру Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, другая была набыта ў пачатку 90-х гадоў — у гэтыя часы Алесь актыўна займаўся перакладчыцкай і выдавецкай дзейнасцю.

Факт другі: Кватэра на праспекце Незалежнасці 78А-48, у якой месціцца офіс Праваабарончага цэнтру “Вясна”, была набытая ў 2000 годзе. Па ўзгодненым рашэнні Рады Праваабарончага цэнтру “Вясна” кватэра была аформленая на прыватную асобу, у ёй быў афіцыйна зарэгістраваны Алесь Бяляцкі. Дзякуючы таму, што офіс з’яўляўся прыватнай уласнасцю, Праваабарончы цэнтр “Вясна” змог прапрацаваць у ім 11 апошніх гадоў. У гэтай кватэры рэгулярна праводзяцца прэс-канферэнцыі і прэзентацыі, яна добра вядомая практычна ўсім грамадка-палітычным актывістам краіны і людзям, якія сутыкаюцца з парушэннем іх правоў, яе наведваюць замежныя дыпламаты.

Ведаюць пра існаванне офіса і беларускія спецслужбы. У афіцыйных санкцыях КДБ на правядзеннеператрусаў у дадзенай кватэры ў снежні 2010 і студзені 2011 гг. было ўказана, што следчыя мерапрыемствы адбываліся ў офісе “незарэгістраванага ПЦ “Вясна”.

У дзяржаўных СМІ адмыслова называюць сучасны рынкавы кошт нерухомасці, які значна вырас за апошнія 13 гадоў. Разам з тым, на момант набыцця кошт гэтай кватэры складаў каля 23 000 даляраў ЗША.

Факт трэці: “Шыкоўны катэдж” Бяляцкіх у мястэчку Ракаў уяўляе сабой ні што іншае, як адрамантаваную старую драўляную хату (таму яе неахвотна паказваюць па БТ). Лецішча было набытае сям’ёй у 2005 г., прычым зямельны ўчастак, на якім стаіць дом, не быў прадметам куплі-продажу. Участак належаў папярэднім гаспадарам на праве пажыццёвага валодання (не быў прыватнай уласнасцю) і быў пазней прыватызаваны Бяляцкім самастойна. Як вядома, прыватызацыя зямельных участкаў ў Беларусі каштуе зусім невялікія грошы: у дадзеным выпадку яна абышлася Бяляцкім у суму памерам у 161 330 беларускіх рублёў.

Таксама звяртаем увагу на тое, што перыяд атрымання сродкаў А.Бяляцкім, які разглядаўся ў судзе па крымінальнай справе праваабаронцы — 2007 -2011 гг., а набыццё маёмасці адбывалася ў 1999, 2000 і 2005 гадах адпаведна.

Факт чацвёрты: “Шыкоўны аўтамабіль”, які набыў А.Бяляцкі ў 2010 годзе — гэта “Сітраен С-5” 2003 г. выпуску, які быў увезены ў Беларусь з Літвы ў пашкоджаным стане. Паводле афіцыйнай дамовы куплі-продажу, ён каштаваў 2 300 Еўра, а разам з мытнымі плацяжамі — 3000 Еўра.

Алесь Бяляцкі не мае вадзіцельскіх правоў, машынай карыстаўся ягоны сын Адам – адзін з актыўных удзельнікаў акцый “стоп-бензін” у Мінску. У ліпені 2011 года ён адзін з першых спыніў сваю машыну на праспекце, чым ініцыяваў перакрыццё руху на некалькі гадзін. За ўдзел у жнівеньскай акцыі Адам быў арыштаваны, а машына была пагружана на эвакуатар і вывезеная на штрафную стаянку, дзе знаходзіцца і зараз.

Факт пяты: За перыяд з 1994 г. па 2008 г. Інспекцыяй па падатках і зборах Першамайскага р-ну г. Мінска праводзілася праверка прыбыткаў Алеся Бяляцкага і членаў ягонай сям’і. Перавышэнне прыбыткаў А. Бяляцкага над ягонымі выдаткамі па выніках дадзенай праверкі склала сума, эквівалентная 30 далярам ЗША. Перавышэння выдаткаў над прыбыткамі ў іншых членаў сям’і не было ўстаноўлена. Варта нагадаць, што менавіта на гэты перыяд часу і прыпадаюць здзелкі з купляй маёмасці.

Факт шосты: Грашовыя сродкі НЕ АПЫНУЛІСЯ на рахунках, адкрытах А. Бяляцкім у Літве і Польшчы, а БЫЛІ ПЕРАЛІЧАНЫЯ туды шэрагам фондаў згодна з двухбаковымі дамоўленасцямі паміж дадзеным фондамі і Праваабарончым цэнтрам “Вясна”. Атрыманыя сродкі расходваліся арганізацыяй на заяўленыя мэты: праваабарончую дзейнасць, у тым ліку — аказанне дапамогі ахвярам парушэння правоў чалавека. Уся справаздачнасць па расходванні атрыманых сродкаў была прадстаўлена Праваабронччым цэнтрам “Вясна” фондам, якія не





## Колькасьць парушэньняў на польска-беларускай мяжы расьце

У 2011 годзе на польска-беларускай мяжы ў два разы павялічылася колькасьць затрыманьняў беларускіх грамадзянаў за парушэньне правілаў перасячэньня мяжы.

Паводле інфармацыі з кампэтэнтных органаў Польшчы, у 2011 годзе ў параўнаньні з папярэднім годам у два разы павялічылася колькасьць затрыманьняў беларускіх грамадзянаў за парушэньне правілаў перасячэньня мяжы, а таксама мытнага заканадаўства Польшчы. Акрамя таго, узрасла колькасьць канфіскаваных у беларускіх грамадзян аўтатранспартных сродкаў.

Колькасьць беларускіх парушальнікаў мытнага заканадаўства Польшчы расьце, нягледзячы на ўзмацненьне жорсткасьці польскімі мытнымі службамі яшчэ ў канцы 2008 года правілаў увозу падакцызных тавараў.

«Пачасьціліся і выпадкі канфіскацыі аўтамабіляў у грамадзянаў Беларусі за нелегальны правоз падакцызных тавараў», — адзначыў БЕЛТА генэральны консул Беларусі ў Беластоку Аляксандар Берабеня. — «Толькі на Падляскім участку беларуска-польскай мяжы за 2011 год канфіскавана 68 аўтамабіляў. Для параўнаньня: у 2010 годзе было канфіскавана 38 аўто».

Акрамя таго, рэзка павялічылася колькасьць беларусаў, якія перасякаюць беларуска-польскую мяжу на падставе візаў, атрыманых незаконным шляхам. За гэта беларусаў затрымліваюць польскія памежнікі ў адпаведнасьці з Крымінальным кодэксам Польшчы (артыкулы «Незаконнае перасячэньне мяжы», і «Уводзіны ў зман службовай асобы, упаўнаважанага да выдачы дакумэнтаў»). У мінулым годзе зафіксавана 150 такіх выпадкаў.

Беларускія дыпляматы нагадваюць суайчыньнікам, якія выяжджаюць за мяжу, што неабходна ўважліва вывучаць і выконваць заканадаўства краіны прызначэньня. У Польшчы за парушэньне мытнага заканадаўства і правілаў перасячэньня мяжы прадугледжаны не толькі штрафы і канфіскацыя аўтамабіляў, але і унясеньне ў базу дадзеных асоб, уезд якім забаронены на тэрыторыю краін Шэнгенскага пагадненьня, а таксама крымінальная адказнасьць.

www.svaboda.org/content/article/24441591.html

Вось як апісаў сітуацыю сам зняволены ў адным са сваіх лістоў:

«Увесь 2011 год газета прыходзіла своечасова, і прыемна было быць у курсе падзей, якія адбываюцца падзей і навінаў свету. Тут гэта вельмі важна і трэба. Вымушаны патурбаваць Вас з прычыны наступнага – у 2012 годзе выпісаная Вамі на маё імя газета з-за чагосьці апынулася не ў маіх руках. Маё прозвішча забеленае карэктарам, на газеце прозвішча брыгадзіра з ..., а на газеце напісана «на атрад». Дадзеная асоба аб'явіла мне, што з гэтай газеты яна (!) будзе рабіць падпіску-падшыўку, а мне, можа быць, і дадуць прачытаць калі-небудзь. Увогуле - звычайнае бягучае бязьмежжа. У бібліятэцы, куды прыходзіць пошта, мне растлумачылі, што паколькі ў мяне няма квітанцыі аб падпісцы, то і казаць няма пра што. На маё імя газеты - няма! На жаль, з прычыны такога становішча справаў, менавіта тыя людзі, каму дарагая і цікавая ваша газета і займаемая ёю грамадзянская пазіцыя – прачытаць Ніву ўжо не могуць».

Праваабарончы цэнтр "Вясна" будзе зьвяртацца да рэдакцыі "Нашай Нівы" с просьбай паўторна падпісаць зняволенага на газету, а таксама выпісаць газету для адміністрацыі івацэвіцкай калоніі, у якой не знайшлося некалькі дзесяткаў тысяч рублёў, каб забяспечыць сябе свежай прэсай.

spring96.org/be/news/49522

## У Брэсце 31 студзеня страйкавалі распаўсюднікі квіткоў латарэі "Суперлато"

Падставай для такіх рашучых дзеянняў брэсцкія прадаўцы квіткоў называюць адмову арганізатараў гэтай латарэі выплочваць надбаўку за працу ў зімовы час, якая раней складала 20% ад выручкі.

Паводлве слоў адной з жанчын, што займаецца распаўсюдам у Брэсце квіткоў "Суперлато", звычайна рэалізатары атрымоўваюць 10% ад выручкі квіткоў, а падчас зімовых месяцаў (снежань, студзень, люты) – яшчэ 20% за працу ва ўмовах халоднага надвор'я. Аднак зараз кіраўніцтва латарэі (РУП "Нацыянальныя спартыўныя латарэі") адмаўляецца выплочваць абяцаную надбаўку. Даведаўшыся пра гэта, брэсцкія рэалізатары квіткоў "Суперлато" вырашылі 31 студзеня не выходзіць на працу. Такім чынам, яны хочуць прыцягнуць увагу да дзеянняў арганізатараў латарэі, якія не выконваюць узятыя на сябе абавязкі.

spring96.org/be/news/49509





выказалі ніводнай прэтэнзіі да іх выкарыстання. Такім чынам, грашовыя сродкі з рахункаў, адкрытых на імя А. Бяляцкага, не з'яўляюцца ягоным асабістым прыбыткам і, адпаведна, не падлягаюць падаткаабкладанню.

Праваабарончы цэнтр "Вясна" заўсёды адкрыты да супрацоўніцтва з усімі СМІ і гатовы прадаставіць любую дакладную і праўдзівую інфармацыю па справе А. Бяляцкага, калі, вядома, гэтыя СМІ зацікаўленыя ў яе атрыманні.

spring96.org/be/news/48810

## Каваленка: «Галадоўка — гэта цяпер мой адзіны сродак барацьбы»

Так віцебскі актывіст заявіў свайму адвакату ў адказ на прапанову скончыць галадоўку пратэсту.

Адвакат Пётар Каваленка — цёзка па прозьвішчы падабароннага — наведаў Сяргея Каваленку ў віцебскім СІЗА. Ён сказаў, што Сяргей выглядае змучаным, але спыніць галадоўку катэгарычна адмаўляецца.

У такім стане ён вымушаны браць удзел у сьледчых дзеяньнях, прызначаных на 24 студзеня ў прысутнасьці адваката і перакладчыка.

Алена Каваленка, жонка зьняволенага віцебскага сябра КХП БНФ, дадала: «Я была ў абласной пракуратуры, прасіла, каб мне дазволілі перадаць у СІЗА садавіну і сокі — каб у Сяргея былі гэтыя прадукты на выпадак выхаду з галадоўкі. Але мне адмовілі: маўляў, у яго афіцыйна абвешчана галадоўка, значыць, і перадачы не патрэбныя. Яшчэ мне сказалі, што стан здароўя Сяргея здавальняючы і што яго раз на суткі прымусова кормяць. Як адбываецца гэтая працэдура, мне зноў не патлумачылі. Не далі пэўнага адказу і наконт шпіталізацыі: я лічу, што ягоны стан здароўя сьвядома падрываюць, каб ён стаў „згаворлівы“, інакш кажучы, зь яго проста зьдзекуюцца».

Маці апазыцыянэра Лідзія Каваленка таксама атрымала ад сьледчых адказ, што ў экстранай мэдычнай дапамозе зьняволены сын патрэбы ня мае. Наконт магчымасьці выпусьціць актывіста пад грашовы заклад ніякага адказу сваякі пакуль не атрымалі.

Сяргей Каваленка галадае ўжо 36-я суткі. Гэта галадоўка на знак пратэсту супраць зьняволеньня і крымінальнага абвінавачаньня. Актывіста вінавацяць у парушэньні рэжыму адбываньня «хатняй хіміі» — пакараньня, прысуджанага яму ў 2010 годзе за ўзьняты на гарадзкой ёлцы бел-чырвона-белы сьцяг.

www.svaboda.org/content/article/24460719.html

## Пракуратура не выявіла фактаў жорсткага абыходжання з Аўтуховічам

Пракуратура Брэсцкай вобласці адмовіла ва ўзбуджэнні крымінальнай справы па фактах жорсткага абыходжання з Мікалаем Аўтуховічам, паколькі падчас праверкі выявіць факты сістэматычнай знявагі яго асабістай годнасці ці схілення яго да самазабойства з боку адміністрацыі калоніі "не прадставілася магчымым".



Мікалай Аўтуховіч

Такі адказ ад следчага пракуратуры Брэсцкай вобласці атрымаў былы адвакат палітвязня Павел Сапелка. Ён накіроўваў зварот у пракуратуру з нагоды інфармацыі на сайце "Хартыя'97" пра тое, што 11 снежня Мікалай Аўтуховіч, даведзены да адчаю беззаконнем службовых асобаў калоніі, парэзаў сабе вены. Паводле меркавання юрыста, такія дзеянні службовых асобаў адміністрацыі калоніі маюць прыкметы складаў злачынстваў, прадугледжаных артыкуламі 145 ("Давядзенне да самагубства") і 146 ("Схіленне да самагубства") Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь.

Следчы пракуратуры Селех М.Л., разгледзеўшы матэрыялы праверкі, устанавіў, што "падчас праверкі не атрымана аб'ектыўных доказаў парушэння прадстаўнікамі адміністрацыі калоніі сваіх службовых паўнамоцтваў, як не атрымана і звестак, якія б сведчылі пра датычнасць да спробы самагубства Аўтуховічам староннiх асобаў".

Следства паставіла пад сумнеў тлумачэнні, дадзеныя Мікалаем Аўтуховічам падчас апытання: "Аўтуховіч патлумачыў, што 11.12.2011 ён, выкарыстоўваючы лязо ад аднаразовага станка, сапраўды нанёс сабе парэзы на перадплеччах абедзвюх рук, аднак звязана гэта было з тым, што нібыта адміністрацыя калоніі "займаецца пакрывальніцтвам супрацьпраўных дзеянняў загадчыка гаспадаркі атрада № 13 - Пракаповіча У.І., які збівае асуджаных". Каго канкрэтна і пры якіх абставінах збіваў Пракаповіч У.І., Аўтуховіч пры апытанні назваць не змог". Таксама ўказваецца, што апытаны Пракаповіч і іншыя асуджаныя факты прымянення ім насілля адмаўляюць. Следства мяркуе, што "пашкоджанне Аўтуховічам перадплеччаў не з'яўляецца спробай





## Брэсцкая моладзь праводзіць кампанію "Наша Мова"

Брэсцкая моладзевая ініцыятыва "Аазіс" і Моладзь БНФ праводзяць у горадзе над Бугам кампанію "Наша Мова" з мэтай вяртання беларускай мове статуса адзінай дзяржаўнай.

Пакуль маладзёны распаўсюджваюць інфармацыйную прадукцыю.

Ва ўлётках кампаніі адзначаецца: "Мы, моладзь Брэста, станоўча ставімся да двухмоўя. Чым больш моў ведаюць людзі, тым лепш. Сітуацыя шматмоўнасці заўсёды была характэрнай для беларускіх земляў <...> Сёння на самых высокіх узроўнях адкрыта дэманструецца непавага да беларускай мовы..."




Старшыня брэсцкай суполкі Моладзі БНФ Сяржук Кавалько адзначыў, што ўлётка ўтрымоўвае таксама і тэкст для ўдзелу ў конкурсе:

- Гэтая ўлётка цікавая тым, што ў ёй ёсць тэкст на рускай мове, перакалад якога трэба зрабіць. Хто зробіць і дашле пераклад на пазначаны электронны адрас, той атрымае фірмовыя значакі нашай кампаніі. Галоўная мэта кампаніі – папулярызацыя беларускай мовы.

Арганізатары кампаніі рыхтуюцца да 21 лютага, калі ў свеце адзначаецца Міжнародны дзень роднай мовы. У гэты дзень у Брэсце адбудзецца шэраг мерапрыемстваў прысвечаных мове.

Зміцер Кісель, Радыё Рацыя, Брэст.

new.racyja.com/news/brestskaya-moladz-pravodzits-kampaniyu-nasha-mova-fota

## Вязьню івацэвіцкай калоніі не аддаюць выпісаную газету "Наша ніва"

У папраўчай калоніі №5 у Івацэвічах адзін з вязняў N ня можа чытаць выпісаную на ягонае імя газету "Наша ніва". Супрацоўнікі калоніі не перадаюць выданьне арыштанту, у бібліятэцы ня могуць дапамагчы, бо вязень ня мае на руках квітанцыі аб падпісцы.

## Брэсцкія студэнты патрабуюць кампенсацыю за жыллё

Прыблізна адна тысяча подпісаў сабраная пад зваротам брэсцкіх студэнтаў да мясцовых уладаў, у якім гучыць патрабаванне вырашыць пытанне з кампенсацыяй за жыллё тым, каму не хапіла месца ў інтэрнатах.

Гэтая праблема даўно ўжо набыла актуальнасць у брэсцкіх студэнтаў, але зараз яны вырашылі дзейнічаць у адпаведнасці з пастановай беларускага ўрада, якім прадугледжана, што студэнты ў Мінску маюць права на кампенсацыю ў памеры трох базавых велічынь, а ў астатніх гарадах – двух базавых велічынь. Як высветлілася, з-за бюракратычных перашкодаў атрымаць нават такую невялікую суму фактычна нерэальна, таму студэнты і вырашылі скласці зварот да ўладаў.

З дапамогай згаданых 70 тысяч рублёў тыя, хто вучыцца ў ВНУ, могуць хоць трошкі палепшыць свой фінансавы стан, а ўжо пытанне пра арэндаванае жыллё (аднапакаёўка ў Брэсце абыходзіцца не меней чым у 100 долараў штомесяц) вырашаюць самастойна альбо з дапамогай бацькоў.

spring96.org/be/news/49211

## Берасьце. Тысяча подпісаў за чыстае паветра

Берасьцейскія актывісты кампаніі «Гавары праўду» накіравалі ў гарвыканкам больш за тысячу подпісаў пад зваротам, у якім патрабуецца вырашыць праблему нядобрых пахаў у горадзе.

Актывістка кампаніі Ганна Канюс тлумачыць, што збор подпісаў праходзіў у межах акцыі «За чыстае паветра». Спадарыня Канюс кажа, што ачышчальныя збудаваньні, якія разьмешчаныя ля Берасьця, даўно не мадэрнізаваліся, і таму берасьцейцаў непакояць нядобрыя пахі:

«Апошні час мы фактычна штодзённа сутыкаемся з праблемай, якую самастойна вырашыць ня можам. Гэтая праблема — смурод. Нядобры пах у горадзе, асабліва ўвечары і ўначы. Ён запаўняе прыбярэжныя раёны нашага гораду, трапляе ў кватэры. Гэта ня толькі дыскамфорт, але і пагроза для здароўя, бо такі пах выклікае нэгатыўныя рэакцыі арганізму».

У сувязі з гэтым актывісты патрабуюць «у адпаведнасьці з законам аб санітарна-гігіенічным дабрабыце насельніцтва правесьці неабходныя мерапрыемствы для ліквідацыі смуроду ў Берасьці».

www.svaboda.org/content/article/24458236.html





пакарання, што прад'яўляюцца адміністрацыяй папраўчай установы да асуджаных".

Змяшчэнне палітвязня ў памяшканне камернага тыпу тэрмінам на месяц следчы Селех далей і тлумачыць як пакаранне за гэты "акт членашкодніцтва".

spring96.org/be/news/48901

## Маці Кавалёва: Мне стала кепска. Хлопцы сядзяць невядома за каго

Карэспандэнт «Свабоды» злучыўся з блогерам, які выклаў на сайце gonzo.by фатаздымкі людзей з падазроным багажом, якія выходзілі зь менскага мэтро неўзабаве пасьля выбуху 11 красавіка 2011 году.

У інтэрнэце зьявіліся кадры зь відэасюжэту дзяржаўнага агенцтва БелТА, зьнятыя адразу пасля выбуху ў мэтро ля бліжэйшага да Дому афіцэраў выхаду. На гэтых кадрах відаць, як з падземнага пераходу выходзяць чатыры чалавекі, двое зь іх нясуць цяжкую брызэнтавую сумку, адзін трымае ў правай руцэ вялікую шпульку з чорным провадам, а ў левай - прадмет, падобны на кандэнсатную падрыўную машынку.

Многія ўдзельнікі форумаў, дзе абмяркоўваліся гэтыя фотаздымкі, упэўненыя, што людзі ў цывільным, якія выходзяць з пераходу прыкладна праз паўгадзіны пасля выбуху - не сапёры. Фарумчане абмяркоўваюць асобы гэтых чатырох чалавек і іх магчымую ролю ў тэракце.

Карэспандэнт «Свабоды» злучыўся з блогерам Максімам Чарняўскім, які выклаў на сайце gonzo.by фатаздымкі падазроных людзей. Адкуль узяліся гэтыя здымкі і чаму ёсьць упэўненасьць, што яны сапраўдныя?

Максім Чарняўскі: «Гэтыя здымкі я ўзяў з форуму на tut.by. Там некалькі соцень старонак, але мне параілі, і я прагледзеў іх і знайшоў гэтыя фатаздымкі. Яны там ужо некалькі дзён, але ніхто не зьвяртаў увагі. Я прааналізаваў усё гэта, сабраў самыя цікавыя факты і выклаў іх. Мяркую, гэта проста бомба. Сапраўды, шмат хто разумеў, што Канавалаў і Кавалёў калі і стаяць за тэрактам, то яны ня самі па сабе. Але цяпер відавочна, што выканаўцы ўвогуле зусім іншыя. На форумах застаецца яшчэ шмат іншых фактаў, проста немагчыма ўсё зьмясьціць у адзін артыкул».

Карэспандэнт: «А дзе доказы таго, што гэтыя здымкі падазроных людзей на выхадзе з мэтро зробленыя адразу пасьля выбуху?»

Максім Чарняўскі: «А гэта кадры са здымак афіцыйнага агенцтва

БелТА, яны выкладзеныя на YouTube. Там ідзе паток відэа, як людзі пасьля выбуху выходзяць з мэтро, і напрыканцы бачна, як менавіта гэтыя людзі выходзяць».

Паводле Максіма Чарняўскага, фатаздымак кандэнсатнай падрыўной машынкі КПМ-ЗУ1 і катушкі з дротам П-274, якія на фатаздымках выносяць з мэтро падазроныя асобы, ён таксама знайшоў на форумах.

«Мне стала кепска, у літаральным сэнсе, схапіла сэрца! Хлопцы сядзяць, невядома за каго, і людзі пацярпелі», — так пракамэнтавала ўбачаныя ў інтэрнэце фотаздымкі Любоў Кавалёва, маці аднаго з асуджаных за тэракт да сьмяротнага пакараньня, Уладзіслава Кавалёва.

На працэсе над Канавалавым і Кавалёвым пацярпелы Самвэл Саакян заявіў, што бачыў у мэтро напярэдадні выбуху рабочых, якія выконвалі нейкія працы ўнутры на станцыі «Кастрычніцкая». Саакян хадайнічаў, каб суд выклікаў прадстаўнікоў мэтрапалітэну і высьветліў, што гэта былі за людзі і якую працу яны выконвалі, але суд хадайніцтва не задаволіў.

www.svaboda.org/content/article/24454429.html

## Брэст рыхтуе кадры для расійскага марфлоту

За апошнія пяць гадоў 26 берасцейцаў паступілі ў расійскія навучальныя ўстановы, якія выпускаюць спецыялістаў грамадзянскага флоту.

Ролю стартавай пазіцыі для будучых мараплаўцаў у горадзе над Бугам грае Цэнтр юных маракоў.

Гэта ўстанова дадатковага адукацыі. У Беларусі такіх толькі дзве: брэсцкая і гомельская. Сёння там вучацца дзеці з 5 па 11 класы. Усяго — 1053 навучэнцы, з якімі ў 98 гуртках займаюцца каля 30 педагогаў. За 23 гады працы цэнтра ў ім займалася больш за 11 тысяч падлеткаў.

Акрамя Акадэміі Макарава берасцейцы вучацца ў Балтыйскай дзяржаўнай акадэміі рыбапрамысловага флоту, Мурманскім марскім рыбапрамысловым каледжы імя Месяцава, Калінінградскім марскім каледжы Дзяржаўнага камітэта РФ па рыбалоўстве.

У большасці сваёй нашы суайчыннікі застаюцца працаваць у Расіі. Беларускі марскі флот развіваецца пакуль не так актыўна, як заяўлялася ў пачатку яго станаўлення. Дарэчы, і ў нашых усходніх суседзяў сёння попыт на прафесію марака невялікі. Зрэшты, расійскіх спецыялістаў ахвотна «купляюць» мяжой, напрыклад, у Нідэрландах.

nn.by/?c=ar&i=66278





## У сталоўцы Брэсцкага гарвыканкаму прадаюць таннае мяса “для сваіх”

Свіныя і ялавічныя вырабы тут прапаноўваюць у 2-3 разы танней, чым на рынку.

Напрыклад, сярэдні кошт на кірмашах гораду за кілаграм свіной пячонкі — 30-35 тысячаў рублёў, у гарвыканкаме ж - менш за 11. Таксама ў сталоўцы прадаюць свіныя ногі, вушы, хвасты і г.д. Гэтыя прадукты без праблемаў можна адшукаць на брэсцкіх прылаўках, але ўдвая даражэй, чым у гарвыканкаме.

Закупіцца “па-чыноўніцку”, праўда, атрымаецца не ва ўсіх жыхароў гораду. Уваход ва ўстанову ахоўваюць міліцыянты. На ўваходзе вісіць абвестка, што прайсці ўсярэдзіну можна па службовым пасведчанні ці па пашпарце пры папярэднім запісе.

euroradio.fm/report/u-stalowtsy-brestskaga-garvykankamu-pradayuts-tannae-myasa-dlya-svaikh-fota-89683

## У Брэсце з’явіліся праявы існавання “чорных спісаў” беларускіх музыкаў

Шэраг актывістаў грамадскіх арганізацый Брэста пачалі заўважаць, што ў адчыненнай пасля рэканструкцыі харчэўні “Сваякі”, якая вызначае сябе як кафэ з нацыянальным каларытам, апошнім часам немагчыма пачуць песні некаторых вядомых беларускіх выканаўцаў.

Харчэўня “Сваякі” ад моманту свайго адкрыцця адрознівалася ад іншых падобных аб’ектаў тым, што тут гучала выключна беларускамоўная музыка. Аднак зараз, як высветлілася, адміністрацыя кафэ фактычна ўвяла забарону на тое, каб выконваліся песні з рэпертуара “Крамбамбулі”, гурта “Палац” ці творы Лявона Вольскага.

Супрацоўнікі харчэўні фактычна падцвердзілі, што песні гэтых выканаўцаў кіраўніцтва кафэ і асабіста яго дырэктар Максім Бычкоў лічаць непажаданымі для выканання. Некаторыя дыскі з запісам твораў папулярных музыкаў увогуле былі забраны, каб не было спакусы ставіць іх для праслухоўвання.

Мясцовыя прыхільнікі беларускамоўнай музыкі мяркуюць, што наўрад ці такія захады зроблены выключна з ініцыятывы кіраўніцтва харчэўні: хутчэй за ўсё, зноў нагадваюць пра сябе сумна вядомыя “чорныя спісы” выканаўцаў, якім не даюць магчымасці ладзіць канцэрты, іх не пачуеш у радыёэфіры і праграмах тэлебачання.

spring96.org/be/news/48964